Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 700.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск, вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-2083

# НАВІНЫ



Аўторак, 11 жніўня 1998 г. № 82 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Прыйшла «чырвоная змена»

*У адміністрацыі прэзідэнта Лукашэнкі з'явіліся новыя людзі*

Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі ўзначаліў 42-гадовы Аляксандр Саламаха, які ўжо прыступіў да выканання сваіх абавязкаў. У адміністрацыю яго забралі з пасады галоўнага рэдактара газеты «Чырвоная змена». Раней начальнікам прэзідэнцкага ГУГПІ з'яўляўся палкоўнік Замяталін. Ёнператварыў гэтую структуру ў штаб барацьбы з незалежнай прэсай. Чым будзе займацца новы шэф?

Начальнікам прэзідэнцкай прэс-службы стаў 44-гадовы Уладзімір Скварцоў, які дагэтуль быў дарадцам у беларускай амбасадзе ў Германіі. У кадравым упраўленні адміністрацыі паведамілі, што Скварцоў цяпер знаходзіцца ў ФРГ, дзе вырашае пытанні, звязаныя з пераездам у Мінск. Свой новы кабінет прэс-сакратар займе на будучым тыдні.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Карабах – Мінск – Масква

**Былы намеснік дзяржсакратара Савета бяспекі палкоўнік Сяргей Канцавенка пераведзены на службу ў Маскву.**

Цяпер гэты кадравы афіцэр КДБ працуе ў адной з інтэграцыйных структураў выканкама саюза Беларусі і Расіі.

Канцавенка пачынаў сваю кар'еру ў КДБ яшчэ ў савецкія часы. У канцы 80-х гадоў ён уваходзіў у створаную па загадзе ЦК КПСС групу, якая вырашала канфлікт у Нагорным Карабаху. У той час Канцавенку давялося ўздзельнічаць у арышце актывістаў армянскага камітэта «Карабах», сярод якіх быў і будучы прэзідэнт Арменіі Лявон Тэр-Петрасян. Але сваім сапраўдным кар'ерным узлётам Сяргей Канцавенка абавязаны Аляксандру Лукашэнку, які запрасіў гэтага супрацоўніка савецкіх спецслужбаў на працу ў Мінск. Канцавенка разам з іншымі былымі афіцэрамі савецкага КДБ заняўся стварэннем новай сістэмы кіравання беларускімі спецслужбамі. На пасадзе намесніка дзяржсакратара Савета бяспекі Канцавенка курыраваў дзейнасць мытных органаў і памежных войскаў.

Цікава, што трохі раней за Канцавенку на службу ў маскоўскія інтэграцыйныя структуры былі пераведзеныя былы начальнік ваеннай контрразведкі Фарыд Канцараў і намеснік старшыні КДБ Беларусі Іван Юркін.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## У Дразды паслоў не пусцяць

**Вяртанне кіраўнікоў дыпламатычных місіяў у Дразды немагчымае, бо комплекс з'яўляецца рэзідэнцыяй прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

Аб гэтым заявіў міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч падчас сустрэчы з часовымі паверанымі Германіі, Францыі і Вялікабрытаніі. Падставай для сустрэчы паслужыў ліст міністра замежных справаў Аўстрыі, цяперашняга старшыні Савета Еўрапейскага Саюза Вольфганга Шуселя, у якім змяшчаецца заклік разглядзець магчымасць вяртання паслоў у старыя рэзідэнцыі. І.Антановіч адзначыў, што цяпер рыхтуецца ліст у адказ, у якім беларускі бок выкажа свае прапановы па ўрэгуляванні сітуацыі, аднак пра вяртанне ў Дразды гаворка не ідзе.

Мяркуючы па ўсім, гэты «наш адказ Еўрасаюзу» будзе пісацца без удзелу самога міністра, бо Іван Іванавіч пайшоў у чарговы адпачынак.

Па інфармацыі намесніка старшыні МЗС Ніны Мазай, многія беларускія паслы, адзаваныя ў Мінск пасля дэмаршу замежных дыпламатаў, вярнуліся на месца сваёй працы. У прыватнасці, паслы ў Францыі, Бельгіі, Аўстрыі, Польшчы, Югаславіі, Швейцарыі працягваюць выконваць свае абавязкі. У адпачынку на радзіме знаходзяцца паслы Беларусі ў Германіі, Вялікабрытаніі і Румыніі. Застаецца пакуль у Мінску і пасол Беларусі ў ЗША Валерый Цэпкала, хоць яго афіцыйны адпачынак ужо скончыўся.

**Б.П.**



*Праз пару тыдняў трэба ўжо будзе збірацца ў школу. А пакуль дзеці яшчэ могуць скакаць праз ручаі: сёлетнім даждлівым летам іх шмат усюды.*

## У цэнтры Брэста – зона радыяцыйнай небяспекі

**У цэнтры Брэста пры перагрузцы ўранавай руды адбылося радыеактыўнае забруджванне тэрыторыяў двух ваенных аб'ектаў — «802» і «Заходні».**

Магутнасць выпраменьвання на забруджаных участках складае 910 мікрарэнтген у гадзіну, што амаль у 50 разоў перавышае нармальны радыяцыйны фон. Глыбіня залягання радыенуклідаў складае 1,6 метра, паводле папярэдніх ацэнак, забруджана 26 тысяч тон грунту.

На думку спецыялістаў спецыялізаванага прадпрыемства «Палессе» — адзінага ў Беларусі, якое займаецца дэзактывацыяй забруджаных тэрыторыяў, — дэзактывацыя двух аб'ектаў у Брэсце будзе каштаваць каля 1 трыльёна рублёў (не менш як 12 мільёнаў долараў) і зойме амаль паўтара года пры ўмове бесперабойнага фінансавання.

Нягледзячы на тое, што забруджванне адбылося яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня, да сённяшняга дня аб здарэнні невядома шырокай грамадскасці. Месца здарэння не агароджанае і не абазначанае знакамі радыяцыйнай небяспекі.

*БелаПАН*

## Варшава падорыць Адама Міцкевіча

**Перад офісам Саюза палякаў у Гродне раскапалі зямлю. Але гэта не трубу прарвала, проста будаўнікі сабраліся заліць падмурак для пастамента будучага помніка Адаму Міцкевічу.**

Бронзавы бюст будзе зроблены ў Варшаве. Яго адальюць на заводзе «Воля», які раней працаваў пераважна для Войска Польскага. Палякі паведамілі, што гатовы ён будзе да 2 кастрычніка.

Задума паставіць у Гродне помнік А.Міцкевічу належыць цалкам Саюзу палякаў. Чатыры гады таму ім быў абвешчаны конкурс, журы найбольш спадабаўся праект мінскага скульптара А.Заспіцкага і архітэктара Ю.Казакова. Пераможцам належылася прэмія ў 500 долараў. Аднак грошай на пабудову помніка не было. Сродкі паспрабавалі збіраць створаныя пры Саюзе палякаў два міцкевічаўскія камітэты, аднак іх было замала.

Заказ здалі на завод толькі праз тры гады пасля адбору праекта. Цяпер стала вядома, што помнік стане бясплатным. У Варшаве знайшліся спонсары, падтрымку аказаў віцэ-прэзідэнт польскай сталіцы. Кошт металу і працы складзе 23 тысячы злотых, а гэта каля 6.770 долараў.

Тым часам гродзенскія гарадскія ўлады сваім коштам пабудуюць пастамент і ўпарадкуюць месца вакол яго. Гэта будзе пліта з умураваным у яе валуном і вертыкальны слуп вышынёй 3 метры. Бронзавая галава паэта будзе мець вышыню 1 метр 15 сантыметраў. Пастамент абкладуць пліткай з чырвонага мармуру.

Бюст А.Міцкевіча стане трэцім помнікам пісьменніку ў Гродне. Яшчэ да вайны палякі паставілі помнік Элізе Ажэшцы, а пасля з'явіўся і Янку Купалу.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Бульба чакае студэнтаў?

**Як паведамілі карэспандэнту НАВІНАЎ у міністэрстве адукацыі, «не выключана», што ўвосень на ўборку ўраджаю-98 будуць накіроўвацца студэнты вышэйшых навучальных установаў Беларусі.**

Яшчэ з савецкіх часоў студэнты (як, дарэчы, і школьнікі, і вучні ПТВ) былі важнай працоўнай сілай на вёсцы. Штогод тысячы студэнтаў здымаліся з вучобы і дасылаліся ў падшэфныя калгасы і саўгасы «на бульбу». Праўда, якасць студэнцкай працы часта была невялікая, а клопату з маладымі людзьмі шмат. Таму апошнія гады калгасы адмаўляліся ад добраахвотнікаў «па прымусе».

Нагадаем, што з 1 жніўня, па словах Аляксандра Лукашэнкі, Беларусь жыве і працуе «ў асаблівым рэжыме» — каб толькі выйграць чарговую бітву за ўраджай. Як паведамляла ўжо наша газета, беларускае войска ўжо гатовае, калі спатрэбіцца, выйсці ў палі. Цяпер — чарга студэнтаў?

**Міхась КАРПОВІЧ**



***Як паведамілі нам у Савеце бяспекі, пакуль што ворагі Беларусі не перашкаджаюць сёлетняй аперацыі «Ураджай-98». Беларускія спецслужбы не зафіксавалі ніводнага выпадку наўмыснага падпалу збожжа, пашкоджання тэхнікі або іншых дыверсіяў.***

*На здымку: камбайнеры калгаса «Маяк» Дзяржынскага раёна самі рамантуюць свой «Дон-1500».*

## Сталічны транспарт працуе ўночы

*З учарашняй ночы ў Мінску пачалі працаваць сем камерцыйных маршрутаў начнога грамадскага транспарту*

З гадзіны ночы і да пяці раніцы аўтобусы будуць курсіраваць па наступных маршрутах: вакзал — Малінаўка; Кунцаўшчына — вакзал — вуліца Машынабудаўнікоў; вакзал — праспект Ракасоўскага — д/с «Ангарская-4»; Зялёны Луг — вуліца Талстога — вуліца Асаналіева; вакзал — праспект Жукава — Сухарава. Кошт паездкі на аўтобусе — 30 тыс. рублёў.

Акрамя аўтобусных, уводзяцца і два трамвайныя маршруты: Серабранка — плошча Мяснікова і Зялёны Луг — плошча Мяснікова. Кошт праезду на трамваі складзе 20 тыс. рублёў.

*БелаПАН*

## Дапаможам Маскве ліфтамі

**Ліфты вытворчасці Магілёўскага ліфтавага завода будуць вазіць славутых оперных і балетных выканаўцаў у Вялікім тэатры Масквы.**

Адзін з буйнейшых тэатраў свету набыў 11 ліфтаў для свайго новага будынку: ад пасажырскіх (на 630 кг) да грузавых (на 5 тон). Кошт партыі ліфтаў салідны — каля 500 тыс. долараў. Прычым права на гэты заказ магілёўцы заваявалі ў конкурснай барацьбе з 11 замежнымі фірмамі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## «Маналіт» гатовы баставаць

**Пагроза забастоўкі навісла над адным з буйнейшых прадпрыемстваў радыёэлектроннай прамысловасці Беларусі — віцебскім вытворчым аб'яднаннем «Маналіт».**

Абурэнне работнікаў прадпрыемства затрымкамі зарплаты і іншымі парушэннямі калектыўнага дагавора выказана ў звароце прафсаюзнай арганізацыі «Маналіта» да ўрада, галіновага міністэрства і аблвыканкама. Рабочыя нагадалі адміністрацыі і міністэрству і аб абяцаным крэдыце ў 7,5 мільёна долараў, і аб вялізных сумах, патрачаных уладамі на «Славянскі базар».

Дарэчы, сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя ў чэрвені—ліпені, паказалі, што абсалютная большасць апытаных (83%) лічаць страйкі цалкам законным і дапушчальным сродкам абароны правоў працоўных.

Актывісты Хартыі'97, члены шклоўскага маладзёжнага клуба ў пачатку жніўня праплылі на плытах па Дняпры ад Оршы да Шклова. Плыт быў яскрава аформлены, і гэта выклікала інтарэс жыхароў прыбярэжных вёсак і шматлікіх адпачываючых. Падчас стаянак удзельнікі акцыі распаўсюджвалі незалежную прэсу і збіралі подпісы пад Хартыяй'97.

У бліжэйшы час маладыя беларусы здзейсняць такія ж падарожжы па іншых рэках Беларусі.

*Прэс-цэнтр Хартыі'97*




## У гомельскіх крамах – «прафілактыка»

**Да канца года ў Гомелі будуць дзейнічаць абмежаванні на продаж некаторых прадуктаў харчавання.**

Гарвыканкам лічыць, што «дадатковая прафілактыка» не зашкодзіць. У выніку, да канца 1998 г. будзе дзейнічаць правіла: магазіны горада могуць прадаць аднаму чалавеку 3 літры малака, усяго па 0,5 кг тварагу, смятаны, сыру, дзве бляшанкі кансерваў і не больш за два кілаграмы цукру.

## Ліга сексменшасцяў лаяльная да ўладаў

**Суд Кастрычніцкага раёна Мінска прыняў да разгляду іск старшыні Беларускай лігі свабоды сексуальных меншасцяў. Эдвард Тарлецкі падаў у суд на рэдакцыю газеты «Двое дайджест» аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі.**

Як лічаць у Беларускай лізе свабоды сексуальных меншасцяў, у артыкуле «Ці патрэбна нам такая Ліга?», апублікаваным у газеце «Двое дайджест», робіцца «правакацыйны вывад, што і сама арганізацыя, і яе старшыня Эдвард Тарлецкі быццам знаходзяцца ў апазіцыі да ўладаў». «У гэтым артыкуле праглядаецца яўнае жаданне сфарміраваць у грамадскасці і дзяржавы негатыўнае стаўленне да Беларускай лігі свабоды сексуальных меншасцяў», — гаворыцца ў паведамленні, распаўсюджаным кіраўніцтвам Лігі.

У сваім іску Э.Тарлецкі просіць суд спагнаць з адказчыка адзін мільярд беларускіх рублёў і пералічыць гэтую суму на рахунак Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІД.

*БелаПАН*

## СНІД у турме

У гродзенскай турме знаходзяцца чатыры носьбіты СНІДу. Яшчэ сем чалавек, заражаных вірусам імунадэфіцыту, адбываюць пакаранне ў Ваўкавыскай калоніі строгага рэжыму.

**С.М.**

## Юбілей земляка

**Учора споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння польскага пісьменніка і журналіста, нараджэнца Беларусі Тадэвуша Даленгі-Мастовіча.**

Т.Даленга-Мастовіч нарадзіўся ў вёсцы Акунёва Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Маці яго належала да старадаўняга беларускага дваранскага роду герба «Даленга». Атрымаўшы адукацыю ў Кіеўскім універсітэце, ён працаваў спачатку супрацоўнікам, а потым рэдактарам газеты *Rzeczpospolita*. Дзеянне многіх яго раманаў, якія з'яўляюцца вострай сатырай на жыццё Польшчы часоў Пілсудскага, адбываюцца на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Фільм, зняты паводле яго рамана «Знахар», у свой час з поспехам дэманстраваўся на экранах Беларусі.

У Глыбокім таварыства «Беларусь—Польшча», Польскі інстытут у Мінску сумесна з Глыбоцкім райвыканкамам арганізавалі юбілейныя ўрачыстасці. У прыватнасці, на доме №2 па вул. Савецкай, побач з тым месцам, дзе некалі жыў Тадэвуш Даленга-Мастовіч, устанавілі мемарыяльную пліту.

*БелаПАН*

## Хор спяваў ля магілы Геніюш

**У мінулую нядзелю ў Зэльве каля магілы беларускай паэткі Ларысы Геніюш сабралася каля пяцідзесяці гродзенцаў і мясцовых жыхароў, каб ушанаваць памяць пісьменніцы.**

Яна нарадзілася ў 1910 г. у гэты дзень — 9 жніўня. Прысутныя ўспаміналі пра яе, чыталі вершы. Гімн «Магутны Божа» і яшчэ некалькі песняў выканаў гродзенскі хор «Бацькаўшчына».

Святара гэтым разам не было. Летась праваахоўныя органы спрабавалі затрымаць праваслаўнага бацюшку, які прыехаў, каб прачытаць малітву на магіле паэткі. А ў мясцовай царкве ў гэты дзень яе ўзгадвалі ў памінальнай малітве. Перабудаваная з касцёла царква знаходзіцца цераз вуліцу ад дома, дзе жыла Ларыса Геніюш. Храм, дарэчы, нядаўна размалявалі мясцовыя «сатаністы», якіх пасля злавілі і асудзілі.

Паездку гродзенцаў у Зэльву наладзіла арганізацыя нядаўна аднOўленай БСДГ, а таксама БНФ.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Фэст у гонар паўстанцаў Каліноўскага

**У ваколіцах вёсак Малое Ольжава і Мохавічы, што ў некалькіх кіламетрах ад Ліды, адбыўся фэст, прысвечаны 135-ым угодкам паўстання Кастуся Каліноўскага.**

У полі паміж гэтымі вёскамі 135 гадоў таму адбылася вялікая бітва паміж паўстанцамі ды царскімі захопнікамі. З гістарычных крыніцаў дакладна вядома, што ў той бітве прымаў удзел і Францішак Багушэвіч. Ужо чацвёрты раз лідскія актывісты ладзяць тут фэст. Афіцыйныя ўлады сёлета праігнаравалі ўрачыстасць, былі толькі прадстаўнік райвыканкама ды ўчастковы міліцыянт. Сабралася каля двухсот чалавек, прыехаў святар Белагрудскага касцёла ксёндз Рышард, які правёў набажэнства з нагоды ўгодкаў бітвы каля Малога Ольжава.

**Лілія САЗАНАВЕЦ**

### ЗДАРЭННІ

## Два выбухі ў цэнтры сталіцы

**У мінулую пятніцу ў Мінску прагучалі два выбухі.**

У 8 гадзінаў раніцы на службовай аўтамабільнай стаянцы «Джэм-банка» на вул. Сурганава выбухнуў чырвоны джып «Нісан-Ціррана». Як высветлілася пазней, джып належаў начальніку службы аховы банка. Ад выбуху сур'ёзна пацярпела задняя частка аўтамабіля. На шчасце, ніхто не пацярпеў — гаспадар машыны быў далёка, а выпадковых пешаходаў у той час амаль не было. Цяпер міліцыя высвятляе, хто мог быць «аўтарам» няўдалага тэрарыстычнага акта.

А ўвечары каля плошчы 8 Сакавіка ў Мінску прагучаў яшчэ адзін выбух — узарваўся аўтамабіль «Жыгулі».

Двое яе пасажыраў і вадзіцель цудам засталіся жывыя. Як паведаміў старшы інспектар пажарнай аховы І.Хрышчановіч, у аўтамабілі перавозілі газавы балон, які працёк, а вадзіцель у гэты момант вырашыў прыкурыць. Па словах інспектара, у падобных выпадках рэдка хто застаецца жывым. Аднак тут вадзіцелю і пасажырам пашчасціла: яны паспелі даволі хутка пакінуць аўтамабіль. Сітуацыя магла быць больш трагічнай, калі б выбухнуў бензабак, але пажарная каманда прыбыла на працягу некалькіх хвілін і здолела хутка збіць полымя.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ, Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Як здабыць 900 мільёнаў за 10 хвілінаў?

**У мінулую сераду на галоўным праспекце Мінска было ўчынене дзёрзкае рабаванне.**

Пра яго паведаміла дырэктар мінскай крамы «Антыквар». Па яе словах, каля дзвюх гадзінаў у «Антыквар» зайшоў невядомы, узброены пісталетам. Пагражаючы «ствалом», невядомы забраў залатых вырабаў на дзевяцьсот мільёнаў рублёў (каля 15 тысяч долараў ЗША) і знік. Цяпер «залатога дзецюка» з пісталетам шукае міліцыя.

Дарэчы, у аналагічных гісторыях з рабаваннямі гандлёвых кропак заўсёды ёсць сумнеў: а ці сапраўды быў рабаўнік? Здараецца, што супрацоўнікам той ці іншай крамы так падабаецца тавар, што ўстрымацца немагчыма. «Невядомы з пісталетам» (аўтаматам, гранатамётам, гарматай і г.д.) — таксама любімы персанаж якраз напярэдадні візіту падатковай інспекцыі. Усе гэтыя версіі давядзецца праверыць мінскім крыміналістам.

**Міхась КАРПОВІЧ**

### ІМПАРТ

# Прыгоды нямецкага ёгурта ў Беларусі

**Асартымент імпартных тавараў у нашых крамах скарачаецца кожны месяц. Пры гэтым усе, хто займаецца гандлем, сцвярджаюць: існуе вялікі незадаволены попыт на імпартныя прадукты. Як вынік — растуць кошты, прычым нягледзячы на рэальную якасць тавару.**

## Дэфіцыт

За апошні год доля імпартных тавараў у таваразвароце крамаў значна скарацілася. Калі раней у салідных прадуктовых крамах доля замежных тавараў даходзіла да 50—60%, то зараз яна зменшылася прынамсі ўдвая. Айчынныя тавары часткова занялі месца замежных, і гэта ў прынцыпе добра. Але паралельна стварыўся дэфіцыт некаторых прадуктаў, якія беларуская харчовая прамысловасць альбо проста не вырабляе, альбо іх якасць далёкая ад той, якую хоча пакупнік.

Прычыны — у надзвычайнай колькасці бюракратычных і чыста эканамічных перашкодаў на шляху імпарцёра. Для таго, каб беларус з'еў, скажам, бляшаначку кансерваванай кукурузы (у Беларусі такога яшчэ рабіць не навучыліся), фірме трэба добра патраціцца. Таму часта імпартныя аперацыі трацяць эканамічны сэнс, а ў кошт тавару, які з'явіцца на прылаўку, закладзена шмат розных выдаткаў.

## Бюракратыя і валюта

Перш за ўсё, замежнаму тавару трэба прайсці працэс сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі. Беларускія чыноўнікі не прызнаюць еўрапейскіх сертыфікатаў якасці, а таксама расійскіх (у дачыненні да тавараў нерасійскага паходжання). Натуральна, што ў Заходняй Еўропе патрабаванні да якасці спажывецкіх тавараў вельмі высокія, але існуе думка, што сертыфікаты можна падрабіць. І чыноўнікі вырашылі проста не прызнаваць заходнія дакументы. І клопату менш, бюджэту дапамога. У выніку імпарцёр плаціць грошы і траціць час, а пакупнік усе гэта кампенсуе са свaёй кішэні.

Пакуль вы не аформіце рэгістрацыю і сертыфікацыю, «растаможыць» тавар немагчыма. Ён ляжыць (зноў жа не бясплатна) на мытным складзе, пасля ідзе мытнае афармленне, выплачваюць новыя затраты, якія пасля праявяцца ў цане.



*Гэтым калгасным каровам, якія ідуць на вячэрнюю дойку, замежная канкурэнцыя не пагражае. Дзяржава пастаралася, каб імпартнаму ёгурту было цяжка трапіць у нашыя крамы.*

Але гэтыя рэчы яшчэ не так аблягчаюць кішэні пакупніка, як праблемы з валютай. У кошт тавару закладаецца не толькі рэальны курс, але і рызыка росту гэтага курсу.

## З Расіі

Зрэшты, праблемы з валютай прыводзяць да таго, што абсалютная большасць замежнага тавару ўвозіцца з Расіі. Па ацэнках спецыялістаў, праз Расію праходзіць да 90% імпарту харчовых тавараў у Беларусь. А гэта значыць, што беларускі пакупнік вымушаны яшчэ аплачваць і дадатковыя транспартныя выдаткі, даходы расійскіх пасрэднікаў, падаткі расійскага бюджэту. Імпарт з Расіі прывабны для нашых гандляроў тым, што купіць расійскія рублі прасцей, чым іншую валюту.

Расійская «арыентацыя» імпарцёраў стымулюецца таксама палітыкай беларускіх уладаў. Так, увоз шэрагу прадуктаў (мясных і малочных) з Заходняй Еўропы забаронены. Забарона была звязаная з масавай хваробай «шаленства кароў». Каровы ўжо не шалеюць, але забарона на карысць беларускіх калгасаў засталася. Таму, напрыклад, нямецкі ёгурт можна ўвезці з Расіі, але не з Германіі.

У выніку кошт згаданага замежнага ёгурта павялічваецца не менш як у два разы. Тое ж і з іншымі таварамі.

## Попыт

Відавочна, што, нягледзячы на ўсе высілкі беларускага ўрада па абароне беларускага рынку ад замежных прадуктаў, у імпартных тавараў ёсць і заўсёды будзе пакупнік. І гэты попыт усё больш задавальняецца за кошт кантрабанды. Нават дзяржаўныя органы прызнаюць гэты факт. Так, большасць адносна таннага замежнага піва ўвозіцца якраз праз празрыстую расійскую мяжу без усялякага мытнага афармлення.

Па словах кіраўнікоў мінскіх крамаў, яны з задавальненнем гандлявалі б імпартнымі таварамі. Але праблемы не ў попыце. Ён ёсць, няма саміх тавараў.

**Алесь САДОЎСКІ**

КОШТЫ РЭКЛАМНАЙ ПЛОШЧЫ Ў ГАЗЕЦЕ НАВІНЫ
на першай паласе — 94 000 руб./см²
на асобнай паласе — 70 000 руб./см²
у рэкламным блоку — 47 000 руб./см²
у тэлевізійнай праграме — 70 000 руб./см²
на апошняй паласе — 70 000 руб./см²
Тэл. 236-2083

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Солана ходит по Польше без галстука

**Генеральный секретарь NATO Хавьер Солана выбрал для проведения летнего отпуска с семьей Польшу. В течение 8 дней сам Солана, его жена Кончита Гименез, дочь Вега и сын Диего (естественно, в сопровождении охраны) увидят Варшаву, Краков, польские Татры и Балтийское побережье.**

## Особый турист

Хавьер Солана уже не раз приезжал в Польшу, которая является одним из кандидатов на вступление в Североатлантический блок, и уже во время своего последнего посещения Варшавы в июне (это был визит по приглашению Ассоциации европейских журналистов, проводивших в столице Польши свой 36-й конгресс) заявил, что хочет ознакомить с Польшей свою семью: ни жена Соланы, ни его дети-студенты здесь еще никогда не были.

В первый же день после прилета семья Соланы отправилась в варшавский парк Королевские Лазенки, где сохранился прекрасный дворцовый комплекс и где в летние уик-энды у памятника Шопену проходят концерты музыки великого польского композитора. Генеральный секретарь *NATO* также пожелал послушать концерт на открытом воздухе и, применив эффект неожиданности, присоединился к многочисленной публике, собравшейся у памятника. Впрочем, остаться незамеченным не получилось — толпа следовавших за генсеком вездесущих журналистов, фоторепортеров и операторов с камерами выдала его с головой. Солана, впрочем, наслаждался музыкой и отдыхом, избегая вопросов и предпочтя общению с журналистами общество испанских туристов, которых встретил в Лазенках.

Вторым пунктом маршрута по Польше Хавьера Соланы и его семьи был Краков, где они поселились в отеле среднего класса — в этом городе гостиницы выкупаются полностью задолго до начала летнего туристического сезона. Впрочем, имя генерального секретаря *NATO* все-таки имеет свои преимущества, и во время посещения Вавеля, королевского дворца в Кракове, семейство Соланы сумело — по их просьбе — увидеть даже те уголки замка, построенного в X-XIII веках, которые для простых туристов закрыты.



*Хавьер Солана*

## Кресты и звезды

Отдельным пунктом программы было посещение крупнейшего фашистского концентрационного лагеря в Освенциме. Как раз в эти дни разгорается конфликт между польскими католиками и международными еврейскими организациями, в котором принимает участие даже правительство Израиля. Евреи трактуют Освенцим как место, где во время Второй мировой войны были уничтожены миллионы их сородичей, и потому воспротивились поставленному на территории бывшего лагеря несколько лет назад кресту. Дескать, там должны быть шестиконечные звезды. Для поляков же этот крест связан непосредственно с именем их земляка папы римского Иоанна Павла II, который во время одного из своих визитов в Польшу в этом месте прочел молитву.

Протесты еврейских организаций вызвали ответную реакцию у части поляков, которые начали создавать комитеты в защиту Папского креста и даже устроили акцию установки 50 малых крестов под стенами бывшего концентрационного лагеря в Освенциме. Ответный шаг противников креста не заставил себя долго ждать: о своей поездке в Польшу заявил радикальный нью-йоркский раввин Ави Вейсс, который намерен привезти с собой членов Конгресса США. А 5 августа шеф канцелярии премьер-министра Б.Нетаньяху обратился к послу Польши в Израиле с просьбой предпринять меры по удалению крестов, «которые нарушают характер места, где было убито 6 млн. евреев».

Обычно улыбающийся Хавьер Солана после посещения бараков лагеря, куда журналистов попросили его не сопровождать, вышел с весьма скорбным выражением лица, а в памятной книге музея оставил короткую запись *«Never again»*.

## Для пользы дела

Хавьера Солану ждет еще древний Гданьск, который в прошлом году отмечал свое 1000-летие и в котором сейчас проходит самое значительное событие года — Доминиканская ярмарка. А в конце каникул в Польше семью Соланы примет президент Польши Александр Квасьневский, который, собственно, и пригласил генерального секретаря *NATO* провести здесь свой отпуск. Эта встреча произойдет на балтийском курорте Юрата, где Александр Квасьневский проводит свой отпуск.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ,**
*Варшава*

# Кредиты МВФ утонут в коррупции

*Так считает американский эксперт*

**Международные финансовые институты, выделяющие России многомиллиардные займы, допускают серьезную ошибку, игнорируя проблему организованной преступности и коррупции. Такую точку зрения высказала Луиз Шелли, директор Центра по изучению транснациональной преступности при Американском университете в Вашингтоне.**

Л.Шелли сказала, что, как только деньги поступают в Россию, они по существу теряются для Запада из-за отсутствия какой бы то ни было отчетности. Одним из основных условий предоставления России займов по линии Всемирного банка (МБРР) и Международного валютного фонда (МВФ), напомнила она, было и остается повышение собираемости налогов. Но эта задача практически невыполнима из-за действующей тройной связки: банки — налоговая служба — оргпреступность. К тому же, по мнению эксперта, система сбора налогов в ее нынешнем виде не дает стимулов к тому, чтобы повысить эффективность этой работы.

Л.Шелли привела ряд примеров нецелевого использования, разбазаривания, а иногда и откровенного расхищения займов по линии МБРР и МВФ («угольный» заем, займы на компенсацию обманутым вкладчикам, на перестройку системы социального обеспечения и др.). Она подчеркнула, что практически все выделяемые международными институтами средства застревают в Москве, не попадая в «глубинку», и вместо модернизации промышленности идут на реконструкцию столицы.

Россия имеет достаточно законов, чтобы бороться с коррупцией. При этом они вполне соответствуют западным стандартам. Проблема заключается в другом — в мировоззрении органов, которым надлежит применять их на практике. Для этого им просто не хватает квалификации.

Еще одна проблема — так называемая «политическая целесообразность». Еще никогда в России не был арестован или подвергнут судебному преследованию человек, который был напрямую связан с потоками денег. Таким образом, попирается главный принцип гражданского общества — принцип неотвратимости наказания.

Чтобы начать решать проблему коррупции, как считает эксперт, недостаточно только давать деньги России. Запад, и в первую очередь США, мог бы, по ее мнению, сделать намного больше и в том, что касается условий предоставления займов России. Здесь нужно больше прозрачности: нельзя вести переговоры с одной и той же узкой группой людей, а тем более с одним лишь Чубайсом. Причем и со стороны Запада переговоры, как правило, ведут одни и те же люди. Необходимо подключить другие институты и структуры. Это позволит установить контроль за тем, как расходуются полученные средства.

Для успешной борьбы с коррупцией необходимо, чтобы в ней участвовали не только средства массовой информации, но и само государство в лице своих правоприменительных органов. Этого же в России пока нет.

# Православные на тропе войны

**В православных церквах Эстонии зачитывается обращение к верующим архиепископа Эстонской апостольской православной церкви (ЭАПЦ) Корнелия, который обвиняет местные власти в ущемлении прав церкви и верующих.**

Архиепископ Корнелий сообщил верующим следующее: эстонские власти в лице министерства внутренних дел затягивают переговоры с ЭАПЦ и не желают регистрировать эту церковь под ее законным названием. Власти намерены также лишить ЭАПЦ права пользоваться ее имуществом в Эстонии. По мнению Корнелия, это ставит под сомнение само существование ЭАПЦ.

Недовольство архиепископа Корнелия связано с давним спором между находящейся под духовным протекторатом Московского патриархата ЭАПЦ и эстонскими властями. Дело в том, что правительство Эстонии отказывается официально регистрировать ЭАПЦ под этим названием, что автоматически лишает церковь права собственности на ее богатую недвижимость в Эстонии.

Вместе с тем под названием ЭАПЦ в Эстонии уже зарегистрирована другая организация, духовное «шефство» над которой взял Константинополь. И теперь «московская» церковь Корнелия, приверженцами которой являются 80% православных в Эстонии, вынуждена заново оформлять право на пользование своим имуществом, в том числе храмами и приходами.

Судя по всему, прийти к компромиссу не удалось. В обращении Корнелия напоминается, что даже в худшие советские времена государство не отнимало у церкви право бесплатно пользоваться ее имуществом. А теперь, пишет Корнелий, храмы и реликвии могут оказаться в распоряжении чуждых религии людей.

Причиной, которая заставила Корнелия нарушить перемирие с эстонскими властями, стал расположенный в историческом центре Таллинна собор Александра Невского, который традиционно рассматривается в качестве главного православного храма Эстонии. Пока Корнелий переговаривался с МВД, собор неожиданно «уплыл» в другие руки.

Пресс-секретарь ЭАПЦ «на платформе Москвы» сообщил, что в случае нежелания властей решить конфликт полюбовно церковь вынуждена будет созвать Крестный ход по всей Эстонии. Московская патриархия поддержала эту идею.

**Александр СУЙТС,**
*Таллинн*

# Премьер-министр в роли рекетира

**В поисках денег украинское руководство пошло на нетрадиционные меры, по сути, сделав заложниками более 2 тысяч участников расширенного заседания кабинета министров, проходившего в киевском дворце «Украина».**

Заявив, что в обновленном здании есть все условия для продолжения заседания хоть до утра, премьер Валерий Пустовойтенко далее поставил ультиматум: никто из представителей министерств и ведомств, а также областных администраций не покинет дворец, пока не будут перечислены 30% задолженности в пенсионный фонд страны и 5% — в чернобыльский. Выходы из здания старательно оберегала охрана.

Долгое сидение во дворце, где работали буфеты, совершенно не обеспечившие «заложников» горючительным, ситуацию несколько изменило — областные лидеры перечислили более 500 миллионов гривен. Предъявителям платежек выдавались желтые квиточки-пропуска на волю, за территорию дворца. Участники собрания также давали подписки-обязательства отдать свои долги фондам. После семи вечера дворец разрешили покинуть последним трем сотням самых рьяных неплательщиков.

**Янина СОКОЛОВСКАЯ,**
*Киев*

# «Железный занавес» по-ирландски

**Правительство Великобритании приступило к рассмотрению просьбы о возведении «стены мира» между католическими и протестантскими кварталами города Портадауна, дабы положить конец непрекращающимся массовым столкновениям между католиками и протестантами.**

Как сообщили информационные агентства, правительство Великобритании рассматривает вопрос о разрешении конфликта в североирландском Портадауне по так называемому берлинскому варианту. В настоящий момент в министерстве по делам Северной Ирландии ломают голову, стоит возводить стену между католическими и протестантскими районами или нет. Официальные представители министерства заявили, что ими получено достаточно большое число посланий от политиков и депутатов Североирландской ассамблеи с убедительными просьбами разделить общины в городе стеной.

Предполагается, что стена может отделить в районе Гарвахи место проживания 50 протестантских семей от тысяч католических. Такое предложение поступило от представителей протестантской общины. Один из ее лидеров в Портадауне пастор Масклинтон объяснил желание отгородиться стеной так: «Людям необходимо чувствовать себя в безопасности. Каждый знает отрицательную сторону «стены мира», но, к несчастью, это необходимо для данного района».

**Б.П.**

# Мать-героиня жила в Чили

**Чилийские газеты с горестью сообщили о смерти самой многодетной мамы в мире.**

Жительница Чили Леонита Эспиноза за свою жизнь успела родить пятьдесят семь детей, многие из которых двойняшки и тройняшки. Те же в свою очередь сделали своей матери еще более значительный подарок — сто внуков и внучек. Имя чилийской женщины занесено в Книгу рекордов Гиннеса, как самой плодовитой мамаши.

Сама же Эспиноза говорила при жизни: «Мои дети — это моя гордость. Мы бедные люди. Но слава Всевышнему, все мои дети честные и трудолюбивые люди. Никто из них не оставляет меня».

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# «Свобода» встала на ремонт

**Величественный символ Латвии — памятник Свободы закрылся на реставрацию.**

Состояние памятника, созданного скульптором Карлисом Зале и архитектором Эрнстом Шталбергом, давно внушало опасения специалистам. Предстоит отремонтировать верхнюю и нижнюю террасы, сменить ряд ступеней, «зашить» швы, сквозь которые внутрь памятника попадают талые воды.

Всего ремонт национальной святыни обойдется в 200 тысяч латов (около 115 тыс. долларов), хотя в ходе работ эта сумма может и измениться — и уж явно не в сторону уменьшения.

42-метровый памятник возводили с 1931-го по 1935-й годы и после войны не без труда спасли от сноса. Решающим оказался голос знаменитого русского скульптора, бывшей рижанки Веры Мухиной, — той самой, которая изваяла всемирно известных «Рабочего и колхозницу».



*На снимке: памятник Свободы в Риге*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Смутный объект желания

**Женщины... Они — среди нас: живут, дышат, улыбаются. Несмотря на кажущуюся близость, понять их часто бывает трудно — поступки и логика женщин постоянно ставят нас в тупик. Мы долго размышляли о происхождении этих загадочных созданий. Ряд загадок нам удалось разгадать, хотя некоторые вопросы (к примеру, почему женщины выщипывают брови и боятся мышей) так и остались без ответа...**

## Почему они так любят шоколад?

Вряд ли можно приманить конфеткой взрослого мужчину. Другое дело женщины. Для них конфеты являются идеальным носителем легкоусвояемой энергии. Как говорят физиологи, мужчины и женщины любят потреблять с пищей жиры, однако дамы предпочитают их в сочетании с углеводами — в виде шоколадных конфет и пирожных. Мужчины, напротив, выбирают жиры в сочетании с белками — хот-доги и гамбургеры.

Возможно, эти предпочтения выработались исторически, поскольку в первобытном обществе мужчины занимались охотой, а женщины — собирательством. Однако тот факт, что они радуются, когда им дарят наборы шоколадных конфет, а потом жалуются на избыточный вес, наука объяснить не в состоянии.

## Страсть к духам

Женщины обладают более чутким обонянием, чем мужчины. Именно в силу этого качества они сразу замечают, когда мы слегка выпили. Известно также, что пахучие субстанции могут в значительной степени влиять на производительность женщин-работниц.

В ходе специальных исследований на Казанской железной дороге установлено, что распыление в воздухе французских духов вдвое увеличивало скорость укладки шпал женской бригадой, в то время как у мужчин наблюдался обратный эффект. Подобные запахи вводили их в состояние мечтательной задумчивости. В этом, скорее всего, и состоит главное предназначение парфюмерии. Являясь утонченной формой химического оружия, духи отвлекают мужчин от излюбленных занятий и делают их легкой добычей коварных красавиц.

## Рост

Бытует мнение, что они готовы бросить нас ради парней более высокого роста. Да, это так. Но насколько высокого? Научные исследования показывают, что в идеале мужчина должен быть на 10—15 см выше подруги. Это связано с представлением о росте как показателе физической силы, а может, и с тем, что женщины нуждаются в ком-то, на кого они могли бы смотреть снизу вверх. Если принять во внимание выходки Наполеона, Иосифа Сталина, Сильвестра Сталлоне и других низкорослых гордецов, можно ли осуждать женщин за их тягу к высоким красавцам?

## Стремление к порядку

Каждый раз, когда ты рыщешь по квартире в поисках ключей, твоя подруга ехидно улыбается — она-то знает, где они лежат. Объяснение находится в уже упоминавшейся теории, согласно которой мужчина совершенствовался в охоте на движущиеся цели (олень, птица, танцовщица в баре), а женщинам приходилось сосредоточиваться на неподвижно лежащих предметах (скребках, мисках, норковых шубках, бриллиантовых колье).

Их стремление к порядку обусловлено также инстинктом обустройства семейного гнезда. Врожденный навык к созданию так называемого уюта делает их непревзойденными специалистами в области наведения порядка. Кстати, попробуй ей это мягко объяснить, когда она будет приставать к тебе с грязной посудой.

## Фонтаны слез

Женщины плачут из-за любой ерунды. Ученые провели любопытное исследование. Они подключали мужчин и женщин к прибору, измеряющему токи головного мозга, и велели думать о грустном. Напряжение печальных мыслей у женщин было в восемь раз выше, чем у мужчин!

Еще один интересный вопрос: почему женщины плачут на собственной свадьбе, а мужчины нет (хотя, казалось бы, все должно быть наоборот)? Разгадка — в сверхъестественной способности женщин предугадывать будущее. Они заранее представляют, как на двадцать третью годовщину свадьбы муж задержится на работе и забудет название ее любимых духов. Чем не повод?

## Бриллианты

В мире женщин бриллианты являются не просто символом серьезных и долгосрочных отношений, но и мощным средством для того, чтобы удержать мужчину от растраты денег на вещи, которые кажутся ему более полезными. Однако, с точки зрения эволюционной теории, женщины были созданы природой, чтобы заставлять нас влезать в долги.

Возьмем пример из животного мира. Самец райской птицы распускает свои длинные перья, растущие на холке. Яркий плюмаж обращает на него внимание хищников, но одновременно привлекает самок. Женская особь понимает: если самец сможет выжить в этом глупом испытании, значит, он слеплен из хорошего теста. Приобретение бриллиантов, с эволюционной точки зрения, показывает твою способность выживать в условиях собственноручно созданной финансовой катастрофы.

## Почему они не читают в туалете

Если женщине хочется тишины, ей достаточно оказаться в мужском обществе. Мы — создания спокойные и слова не скажем, пока диван под нами не загорится. Мужчине значительно труднее найти спокойный уголок для умиротворения, поэтому единственное доступное убежище — это то, что называются местами общего пользования.

Но даже там мы не находимся в полной безопасности. Один из наших консультантов пожаловался, что, когда он скрывается в этом укромном месте, жена встает под дверью и продолжает его поучать.

В первобытном обществе женщине не требовалось соблюдать тишину (необходимое для мужчины условие успешной охоты). Напротив, собирательницы ягод развлекали себя во время промысла болтовней. Оставшись одна среди четырех стен, женщина чувствует, что отбилась от стаи. Ей уже не до чтения, одиночество ее угнетает, и она изо всех сил стремится в лоно коллектива.

## Покупки

Еще один пережиток первобытных времен, когда женщины носились по лесу в поисках орехов и ягод. Теперь они бегают в поисках тряпок, косметики и прочей ерунды, которая, как им кажется, делает их неотразимыми в глазах мужчин. Женщины не могут пропустить ни одного магазина, случайно попавшегося на пути. Здесь они запасаются совершенно бесполезными вещами, которые приносят затем в жертву вечно голодному языческому богу Платяному Шкафу.

## Вера в гороскопы

Гороскоп — передаваемые из космоса зашифрованные инструкции для женщин. Они не сковывают себя жесткими логическими схемами. Типичное гороскопное предсказание вроде «Удачное время, чтобы сменить обстановку» женщины понимают как указание немедленно отправиться в магазин для приобретения нового мебельного гарнитура.

## Почему они живут дольше?

Сами женщины объясняют меньшую продолжительность жизни мужчин их безудержным пьянством, неосторожностью в обращении с режущими, колющими и стреляющими предметами, а также божьей карой за то, что мы загубили их молодость.

Имеется интересная гипотеза о различии эволюционных функций полов, объясняющая большую живучесть «слабого» пола. Женщины призваны сохранять устойчивые признаки человеческого рода, успешно выдержавшие испытание эволюцией. Мужчины же являются первопроходцами — это они испытывают на себе новые качества, необходимые для совершенствования рода человеческого.

Увы, не все эти качества оказываются пригодными для жизни. Многие их носители гибнут. Но лучшие выживают. На практике эти различия в реакции полов на меняющиеся условия выглядели так. Когда наступило глобальное похолодание, у первобытной женщины не только значительно увеличилась подкожная жировая прослойка. А как на это отреагировал первобытный мужчина? Он изобрел меховую шубу!

**Дмитрий КОВКОВСКИЙ,** *МН*

## Почему они сидят, скрестив ноги?

Расстояние между бедрами у женщин больше, поэтому им проще скрещивать ноги у колен, чем мужчинам, у которых кости таза не предназначены для вынашивания ребенка, а потому более узкие.

## ВОПРОСЫ, НА КОТОРЫЕ НАУКА БЕССИЛЬНА ДАТЬ ОТВЕТ

Хотя учёные могут объяснить большинство странностей в женском поведении, временами им остается только разводить в недоумении руками. Наука не способна объяснить, **почему** женщины...

**пересказывают** подругам мельчайшие детали своей интимной жизни и удивляются, что мы с ними не слишком откровенны?

**ласкаются** с такими страшными животными, как собаки, и при этом панически боятся безобидных мышей?

**устраиваются спать** в самом центре двуспальной кровати, вынуждая нас балансировать на самом краю?

**выщипывают** свои брови, чтобы тут же их нарисовать?

**одеваются** вызывающе, выставляя напоказ самые соблазнительные части тела, и возмущаются, что на них нахально глазеют?

**говорят**: «Все в порядке», когда на самом деле все как раз наоборот?

**считают нормальным** потанцевать с другим, но обижаются, если мы собираемся пригласить другую?

**искренне удивляются**, когда в машине кончается бензин, а в тюбике зубная паста?

**коллекционируют** туфли вместо чего-то более стоящего, например банок из-под пива?

**могут без малейших угрызений совести** провести полдня с подружками в кафе, попивая коктейли, но категорически запрещают делать это нам?

с друзьями по телефону **говорят** гораздо громче и эмоциональнее, чем с нами?

**хотят**, чтобы и мы чувствовали себя несчастными, когда им плохо?

И самое главное: **почему они считают свои недостатки изюминками, а наши пороками?**

## Даты і лёсы

*11 жніўня*

**1920**. Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы, часткова населеныя беларусамі, былі перададзеныя Латвіі маскоўскім бальшавіцкім урадам. Узамен латвійскі ўрад пагадзіўся забараніць на сваёй тэрыторыі дзейнасць установаў БНР.

**1927**. Чэшская газета *Rude Pravo* надрукавала артыкул пра Янку Купалу, які на тры месяцы прыехаў на курорт у Карлавы Вары: «*...Купала з'яўляецца для Беларусі тым самым, як Шаўчэнка для Украіны, Міцкевіч для Польшчы, Пушкін для Расіі*».

**1941**. Выканкам створанага Львом Троцкім Чацвёртага Інтэрнацыянала звярнуўся да рабочых усяго свету з заклікам падтрымаць СССР у вайне з нацысцкай Германіяй. На думку трацкістаў, перамога ў вайне мусіла прывесці да непазбежнага заняпаду ўлады Сталіна і ягонай хеўры бюракратаў, а таксама да пралетарскага паўстання па ўсёй Еўропе.

*12 жніўня*

**1887**. Эдысан зрабіў першы ў гісторыі грамзапіс: дзіцячая лічылка, якую ён прачытаў, запісалася іголкай на абгорнутым фальгой цыліндры.

**1925**. У Вялікабрытаніі нарадзіліся блізняты Норыс і Рос МакВертэры — калекцыянеры дзіўных рэкордаў і стваральнікі знакамітай Кнігі рэкордаў Гінеса (па сваіх накладах яна саступае толькі Біблії).

**1928**. У Гомелі пачалося будаўніцтва завода сельскагаспадарчых машын.

**1960**. ЗША запусцілі ў космас першы спадарожнік сувязі *Echo I*.

*13 жніўня*

**1905**. Нарвежцы прагаласавалі на рэферэндуме за скасаванне уніі са Швецыяй і ўтварэнне незалежнай дзяржавы.

**1913**. Нарадзіўся вядомы беларускі кампазітар Анатоль Багатыроў, аўтар оперы «У пушчах Палесся» паводле аповесці Я.Коласа «Дрыгва», кантаты «Беларускім партызанам» на вершы Я.Купалы ды іншых твораў.

**1913**. Нарадзіўся архіепіскап Макарыёс III — духоўны лідэр Кіпра, які ў той час быў брытанскай калоніяй. У 1950-ыя гады гэты іерарх праваслаўнай царквы ўзначальваў рух грэкаў-кіпрыётаў за ўз'яднанне вострава з Грэцыяй і нават заклікаў да ўзброенага паўстання, за што брытанскія ўлады саслалі яго на Сейшэлы. Калі праз 3 гады ссылкі Макарыёс вырашыў адмовіцца ад ідэі ўз'яднання, яму было дазволена вярнуцца на радзіму, якая неўзабаве атрымала незалежнасць і абрала яго ў 1959 г. сваім першым прэзідэнтам.

**1961**. У Берліне пачалося будаўніцтва знакамітага муру даўжынёй 43 км, які мусіў спыніць уцёкі ўсходніх немцаў на Захад (у 1945—61 гг. праз празрыстую мяжу з Заходнім Берлінам сышлі 3 млн.жыхароў ГДР). «Жалезная заслона пасярод Еўропы», пра якую казаў Чэрчыль яшчэ ў 1946 г., займела сваё матэрыяльнае ўвасабленне.

**1988**. У амерыканскім штаце Аёва мясцовыя фермеры стварылі гіганцкі партрэт Мікі Маўса, які тады святкаваў свой 60-гадовы юбілей. Партрэт славутага мышаняці плошчай 210 га ўяўляў сабой поле, па-мастацку засеянае аўсом і кукурузай.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1220 Нумар падпісаны ў друк 10/08/98 (13:24) Наклад — 19.700

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012